# Н. ЛЕСКОЎ



ПЕРШАЯ
БІБЛІЯТЭЧКА
ШКОЛЬНІКА

ПЕРШАЯ БІБЛІЯТЭЧКА ШКОЛЬНІКА

Н. ЛЕСКОЎ

# ЧАЛАВЕК НА ВАРЦЕ

*Пераклад Сакалоўскага І. Ф.*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
Рэдакцыя дзіцячай літаратуры
Мінск 1947



## *РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ*

Падзея, якая прыводзіцца ў гэтым апавяданні, жаласлівая і жудасная па свайму значэнню для галоўнай гераічнай асобы п'есы, а развязка справы настолькі арыгінальная, што падобную да яе наўрад ці можна знайсці дзе-небудзь, апрача Расіі.

Гэта з'яўляецца часткова прыдворным, часткова гістарычным анекдотам, які нядрэнна характарызуе звычаі і напрамак вельмі цікавай, але занадта мала адзначанай эпохі трыццатых гадоў дзевятнаццатага стагоддзя.

Выдумкі тут няма нікольки.

## *РАЗДЗЕЛ ДРУГІ*

Зімой, незадоўга да хрышчэння, у 1839 годзе ў Пецербургу была вялікая адліга. Так распусціла, што здавалася, нібы надыходзіла вясна: снег раставаў, з дахаў дамоў удзень капала вада, лёд на рэчках пасінеў і пакрыўся вадой. На Неве, перад самым Зімнім палацам, стаялі глыбокія палонкі. Вецер дуў цёплы, заходні, але вельмі моцны; з узмор'я наганяла ваду, і стралялі гарматы.

Вартавала палац рота Ізмайлаўскага палка, якой камандаваў адукаваны і добра вядомы ў грамадстве малады афіцэр Нікалай Іванавіч Мілер (у далейшым поўны генерал і дырэктар ліцэя). Гэта быў чалавек з так званым «гуманным» напрамкам, які за ім быў даўно заўважаны і крыху шкодзіў яму па службе ва ўвазе вышэйшага начальства.

На самой-жа справе Мілер быў спраўным і надзейным афіцэрам, а варце палаца ў тую пару ніякая небяспека не пагражала. Час быў ціхі і спакойны. Ад варты палаца не патрабавалася нічога, апрача дакладнага стаяння на пастах, а між тым якраз тады, калі надышла чарга капітана Мілера вартаваць палац, адбыўся вельмі надзвычайны і трывожны

выпадак, пра якi цяпер ледзь успамiнаюць нямногiя з дажываючых свой век тагачасных людзей.

## *РАЗДЗЕЛ ТРЭЦI*

Спачатку ў варце ўсё iшло добра: пасты размеркаваны, людзi расстаўлены, i ўсё было ў дасканалым парадку. Гасудар Нiкалай Паўлавiч быў у добрым здароўi, ездзiў увечары на прагулку, вярнуўся дадому i лёг спаць. Паснулi ўсе i ў палацы. Надышла самая спакойная ноч. У кардэгардыi[1] панавала цiшыня. Капiтан Мiлер прыкалоў шпiлькамi сваю белую насавую хустачку да высокай i заўсёды традыцыйна зашмальцаванай спiнкi афiцэрскага крэсла i сеў чытаць кнiгу.

Н. I. Мiлер вельмi любiў чытаць, i таму ён не сумаваў, а чытаў i не заўважыў, як праходзiла ноч; але раптам, у канцы другой гадзiны ночы, ён страшэнна ўстрывожыўся: да яго прышоў разводны унтэр-афiцэр i збялелы, усхваляваны, хутка прамовiў:

—Бяда, ваша благароддзе, бяда!

—У чым справа?

---

[1] Кардэгардыя — вартавое памяшканне.

— Страшэннае няшчасце здарылася!

Н. І. Мілер ускочыў у трывозе з крэсла і ледзь толкам даведаўся ад унтэр-афіцэра, у чым іменна заключаліся «бяда» і «страшэннае няшчасце».

## *РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЕРТЫ*

Справа заключалася ў наступным: вартавы, салдат Ізмайлаўскага палка па прозвішчу Постнікаў, стоячы на варце каля цяперашняга Іарданскага пад'езда, пачуў, што ў Неве супроць гэтага месца тоне чалавек і ў роспачы моліць аб дапамозе.

Салдат Постнікаў паходзіў з дваровых панскіх людзей і быў нервовы і вельмі чуллівы. Ён доўга слухаў аддаленыя крыкі і стогны чалавека, які тануў, і яму рабілася жудасна. З страхам ён пазіраў ва ўсе бакі ўзбярэжнай, але ні на ёй, ні на Неве ён не бачыў ні адной жывой душы.

Дапамагчы гінучаму ніхто не можа, і ён безумоўна ўтопіцца...

А між тым гэты чалавек вельмі доўга і ўпарта змагаецца.

Ужо адно-б яму, здаецца, — не трацячы сіл, апускацца на дно, дык-жа не! Яго знясі-

леныя стогны і крыкі аб дапамозе то сціхнуць, то зноў чуюцца, і прытым усё бліжэй і бліжэй да Палацавай узбярэжнай. Відаць, што чалавек яшчэ не страціў надзеі на выратаванне і ідзе правільным шляхам, проста на святло ліхтароў, але толькі ён, зразумела, усё-такі не выратуецца, таму што іменна тут, на гэтым шляху, ён трапіць у іарданскую праламку[1]. Там ён нырне пад лёд — і канцы... Вось і зноў сціх, а праз хвіліну зноў плёскаецца ў вадзе і стогне: «Ратуйце, ратуйце!» І цяпер ён ужо так блізка, што нават чуваць плёск вады, як ён боўтаецца ў ёй...

Салдат Постнікаў разумеў, што выратаваць гэтага чалавека вельмі лёгка. Калі цяпер пабегчы на лёд і кінуць гінучаму вяроўку або падаць жэрдку ці стрэльбу, і ён выратаваны. Ён так блізка знаходзіцца, што можа схапіцца рукой і выскачыць. Але Постнікаў памятае і службу і прысягу, ён ведае, што ён вартавы, а вартавы ні ў якім выпадку не мае права пакінуць сваю будку.

З другога-ж боку, сэрца ў Постнікава вельмі непакорлівае, так і ные, так і б'ецца, так

---

[1] К святу «Хрышчэнне» перад Зімовым палацам рабілася вялікая проламка, над якой 6 студзеня адбывалася ўрачыстае богаслужэнне з «вадасвяццем», гэта значыць асвяшчэннем вады, для чаго ў гэтую проламку тры разы апускаўся крыж пад гарматную страляніну з сцен Петрапаўлаўскай крэпасці.

і заходзіць... Хоць вырві яго ды сам сабе пад ногі кінь, — так непакойна з ім робіцца ад гэтых стогнаў і енкаў. Вельмі-ж жудасна чуць, як другі чалавек гіне, і не аказаць яму дапамогі, калі, уласна кажучы, для гэтага ёсць поўная магчымасць, таму што будка з месца не ўцячэ і нішто іншае дрэннае не здарыцца. «Можа пабегчы, ці што?.. Не ўбачаць?.. Ах, божа, хутчэй-бы ўсё скончылася! Зноў стогне...»

За поўгадзіны, пакуль гэта цягнулася, салдат Постнікаў зусім спакутваў сэрцам і пачаў адчуваць «сумненне развагі». А салдат ён быў разумны і спраўны, развpainlessжлівы і вельмі добра разумеў, што пакінуць свой пост, гэта — цяжкая віна, за якую вартавога зараз-жа аддадуць пад ваенны суд, а затым прагоняць праз строй шпіцрутэнамі і пашлюць на катаржную работу, а магчыма, нават і «расстраляюць», але з боку ўздутай ракі зноў чуюцца ўсё бліжэй і бліжэй стогны, і ўжо чуваць бурканне.

— Та-плю-ся!.. Ратуйце, таплюся!

Напэўна, трапіў у іарданскую праламку... Канцы!

Постнікаў яшчэ разы са два азірнуўся ва ўсе бакі. Нікога нідзе няма, толькі ліхтары

качаюцца ад ветру і мігцяць ды з перапынкам далятае гэты крык... магчыма, апошні крык...

Вось яшчэ плёск, яшчэ аднагучны енк, і ў вадзе забулькала.

Вартавы не вытрымаў — і пакінуў свой пост.

## *РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ*

Постнікаў кінуўся да сходкаў, збег з моцна б'ючымся сэрцам на лёд, потым у наплыўшую ваду і, убачыўшы чалавека, які тануў, падаў яму сваю стрэльбу.

Абодва яны былі зусім мокрыя, і паколькі выратаваны быў вельмі стомлены, дрыжэў і не мог стаяць на нагах, салдат Постнікаў вырашыў не пакідаць яго на рацэ, а вывеў на ўзбярэжную і пачаў азірацца, каб каму-небудзь яго перадаць. А між тым, пакуль усё гэта адбывалася, на ўзбярэжнай паказаліся сані, у якіх сядзеў афіцэр існаваўшай тады прыдворнай інваліднай каманды (у далейшым скасаванай).

Гэты так не ў час для Постнікава пад'ехаўшы пан быў, трэба думаць, чалавек вельмі

лёгкадумнага характару і прытым крыху неталковы і даволі нахабны. Ён саскочыў з саней і пачаў пытаць:

—Што за чалавек?.. Што за людзі?

—Тануў,—пачаў было Постнікаў.

—Як тануў? Хто? Ты тануў? Чаму ў такім месцы?

А той толькі цяжка дыхае. Постнікава тут ужо няма, ён узяў стрэльбу на плячо і зноў стаў у будку.

Сцяміў ці не афіцэр, у чым справа, але ён больш не распытваў, а пасадзіў да сябе ў сані выратаванага чалавека і паехаў з ім на Марскую ў з'езжы дом[1] Адміралцейскай часці.

Тут афіцэр зрабіў приставу заяву, што прывезены ім мокры чалавек тануў у рацэ супроць палаца і выратаван ім, панам афіцэрам, з небяспекай для яго ўласнага жыцця.

Той, якога выратавалі, быў і цяпер увесь мокры і знясілены. Ад спалоху і ад страшэнных намаганняў ён страціў памяць, і яму было ўсёроўна, хто выратоўваў яго.

Каля яго мітусіўся заспаны паліцэйскі фельчар, а ў канцылярыі пісалі пратакол са слоў інваліднага афіцэра і з уласцівай палі-

[1] З'езжы дом — паліцэйскае ўпраўленне пэўнай часткі горада.

цэйскім людзям падазронасцю не разумелі, як ён сам увесь сухім з вады вышаў. А афіцэр, які меў жаданне атрымаць сабе ўстаноўлены медаль «За выратаванне гінуўшых», тлумачыў гэта шчаслівым збегам акалічнасцей, але тлумачыў няскладна і неймаверна.

А між тым у палацы па гэтай справе ўтварыліся ўжо іншыя напрамкі.

## *РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ*

У варце палаца ўсе зараз упамянутыя абароты пасля таго, як афіцэр узяў у свае сані выратаванага, былі невядомы. Там ізмайлаўскі афіцэр і салдаты ведалі толькі тое, што іх салдат Постнікаў, пакінуўшы будку, кінуўся ратаваць чалавека, і паколькі гэта з'яўляецца вялікім нарушэннем воінскіх абавязкаў, то радавы Постнікаў цяпер абавязкова пойдзе пад суд і пад палкі, а ўсяму начальству, пачынаючы ад ротнага да камандзіра палка, будуць вялікія непрыемнасці, супроць якіх нічога нельга ні пярэчыць, ні апраўдвацца.

Мокры і змерзлы салдат Постнікаў, зразумела, зараз-жа быў зменены з паста і, прыведзены ў кардэгардыю, шчыра расказаў Н. І. Мілеру ўсё, што нам вядома, і з усімі

падрабязнасцямі, якія даходзілі да таго, як інвалідны афіцэр пасадзіў да сябе выратаванага і загадаў свайму фурману ехаць у Адміралцейскую часць.

Небяспека рабілася ўсё большай і няўхільнай. Зразумела, інвалідны афіцэр усё раскажа прыставу, а прыстаў зараз-жа давядзе аб гэтым да ведама обер-паліцэймейстэра Какошкіна, а той даложыць раніцой гасудару, і пойдзе «гарачка».

Доўга разважаць не было часу, трэба было звяртацца па гэтай справе да старэйшых.

Нікалай Іванавіч Мілер зараз-жа паслаў трывожную запіску свайму батальённаму камандзіру падпалкоўніку Свінніну, у якой прасіў яго як мага хутчэй прыехаць у вартавое памяшканне палаца і чым толькі можна дапамагчы страшэннай бядзе, якая здарылася.

Гэта было ўжо каля трох гадзін, а Какошкін прыходзіў з дакладам да гасудара даволі рана, таму на ўсе разважанні і на ўсе дзеянні заставалася вельмі мала часу.

## *РАЗДЗЕЛ СЁМЫ*

Падпалкоўнік Свіннін не меў той жаласлівасці і мяккага сэрца, якімі заўсёды адзначаў-

ся Нікалай Іванавіч Мілер. Свіннін быў чалавек не жорсткі, але перш за ўсё і больш за ўсё «службіст» (тып, пра якога цяпер зноў успамінаюць з жалем). Свіннін адзначаўся строгасцю і нават любіў фарсіць патрабавальнасцю дысцыпліны. Ён не паважаў зло і нікому не хацеў учыняць дарэмную пакуту; але калі чалавек нарушыў які-б там ні было абавязак службы, то Свіннін быў няўмольны. Ён не хацеў нават і слухаць пра тое, чым кіраваўся ў даным выпадку вінаваты, а прытрымліваўся таго правіла, што на службе ўсякая віна вінават. А таму ў вартавой роце ўсе ведалі: што прыдзецца перацярпець радавому Постнікаву за пакіданне свайго паста, тое ён і адцерпіць, і Свіннін аб гэтым сумаваць не будзе.

Такім гэты штаб-афіцэр быў вядомы начальству і таварышам, між якімі былі людзі, што не сімпатызавалі Свінніну, таму што тады яшчэ не зусім вывеўся «гуманізм» і іншыя яму падобныя заблуджэнні. Свіннін быў абыякавы да таго, ганяць ці хваляць яго «гуманісты». Прасіць і маліць Свінніна або нават спрабаваць яго расчуліць было справай зусім бескарыснай. Ад усяго гэтага ён быў загартаваны моцным гартам кар'ерных людзей таго часу, але і ў яго, як і ў Ахілеса, было слабае месца.

Свіннін меў таксама добра пачатую службовую кар'еру, якую ён, вядома, старанна аберагаў і даражыў тым, каб на яе, як на парадны мундзір, ні адна пылінка не села; а між тым няшчасная выхадка чалавека з даручанага яму батальёна абавязкова павінна была кінуць дрэнны цень на дысцыпліну ўсёй яго часці. Вінаваты ці не вінаваты батальённы камандзір у тым, што адзін з яго салдат зрабіў пад уплывам вялікага спачування, — гэта не прымуць пад увагу тыя, ад каго залежыць добра пачатая і старанна падтрымліваемая службовая кар'ера Свінніна, а шмат хто нават з ахвотай падставіць яму нагу, каб даць дарогу свайму блізкаму чалавеку або пасунуць малайца, пратэжуемага людзьмі, у выпадку гасудар, вядома, раззлуецца і абавязкова скажа палкавому камандзіру, што ў яго «слабыя афіцэры», што ў іх «людзі разбэшчаны». А хто іх разбэсціў? — Свіннін. Усе так і будуць гаварыць, што «Свіннін слабы», і так, магчыма, дакор слабасцю і застанецца чорнай плямай на яго, Свінніна, рэпутацыі. Не адзначыцца яму тады нічым выдатным у радзе сучаснікаў і не пакінуць свайго партрэта ў галерэі гістарычных асоб дзяржавы Расійскай.

Вывучэннем гісторыі тады хаця мала ціка-

віліся, але, аднак, у яе верылі і асабліва ахвотна самі імкнуліся ўдзельнічаць у яе складанні.

## *РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ*

Як толькі Свіннін атрымаў каля трох гадзін ночы трывожную запіску ад капітана Мілера, ён зараз-жа ўскочыў з ложка, апрануўся па форме і, пад уплывам страху і гневу, паехаў у вартавое памяшканне Зімовага палаца. Тут ён неадкладна дапытаў радавога Постнікава і пераканаўся, што няўераемны выпадак адбыўся. Радавы Постнікаў зноў з усёй шчырасцю расказаў свайму батальённаму камандзіру ўсё тое-ж самае, што адбылося на яго варце, і што ён, Постнікаў, ужо раней гаварыў свайму ротнаму капітану Мілеру. Салдат гаварыў, што ён «вінаваты перад богам і гасударом», што ён стаяў на варце і, пачуўшы стогны чалавека, які тануў у рацэ, доўга пакутваў, доўга змагаўся сам з сабой, не ведаў што рабіць: ці выконваць службовы абавязак, ці пакінуць пост і аказаць дапамогу гінучаму. Нарэшце ён не вытрымаў гэтага змагання, пакінуў будку, саскочыў на лёд і выцягнуў чалавека, які тапіўся, на бераг, а тут, як на грэх,

сустрэўся з праязджаўшым афіцэрам інвалід- най каманды палаца.

Падпалкоўнік Свіннін быў у роспачы; раз- гневаны, ён спагнаў сваю злосць на Постні- каве, якога зараз-жа проста адсюль паслаў пад арышт у казарменны карцар, а потым папрак- нуў Мілера «гуманерыяй», якой не павінна быць месца на ваеннай службе; але ўсё гэта было недастатковым для таго, каб уладзіць справу. Знайсці калі не апраўданне, то хаця прабачэнне такому ўчынку, як пакіданне вар- тавым свайго паста, было немагчымым, і за- ставалася адно—скрыць усю справу ад гасу- дара.

Але ці ёсць магчымасць скрыць такое зда- рэнне?

Як відаць, гэта здавалася немагчымым, таму што аб выратаванні чалавека, які тануў, ведалі не толькі ўсе вартавыя, але ведаў і той ненавісны інвалідны афіцэр, які да гэтага часу, напэўна, паведаміў пра ўсё гэта генера- лу Какошкіну.

Куды цяпер ехаць? Да каго кінуцца? У каго шукаць дапамогі і абароны?

Свіннін хацеў ехаць да вялікага князя Міха- іла Паўлавіча[1] і шчыра яму ўсё расказаць.

---

[1] Малодшы брат імператара Нікалая I.

Такія манеўры тады практыкаваліся. Няхай вялікі князь, па свайму гарачаму характару, раззлуецца і накрычыць, але яго звычай быў такі, што чым больш ён спачатку нагаворыць непрыемных слоў і нават вельмі пакрыўдзіць, тым ён потым хутчэй злітуецца і нават сам заступіцца. Такіх выпадкаў было даволі шмат, і іх часам наўмысна шукалі. Свіннін вельмі хацеў-бы давесці справу да такога шчаслівага канца, але хіба можна ўначы ісці ў палац і трывожыць вялікага князя? А чакаць да раніцы і прыйсці да Міхаіла Паўлавіча пасля таго, як Какошкін пабывае з дакладам у гасудара, будзе позна ўжо. Свіннін хваляваўся і не ведаў, што рабіць. Нарэшце ён знайшоў выхад.

## *РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ*

Сярод вядомых ваенных прыёмаў ёсць адзін такі, каб у хвіліну найбольшай небяспекі, якая пагражае з сцен абложанай крэпасці, не адыходзіць ад яе, а проста ісці пад яе сценамі. Свіннін вырашыў не рабіць нічога таго, што яму спачатку прыходзіла ў галаву, а зараз-жа ехаць да Какошкіна.

Пра обер-паліцэймейстра Какошкіна ў

Пецербургу гаварылі тады шмат чаго жудаснага і недарэчнага, але, між іншым, сцвярджалі, што ён валодае дзіўным шматбаковым тактам, дзякуючы якому ён не толькі «ўмее зрабіць з мухі слана, але таксама лёгка ўмее зрабіць з слана муху».

Какошкін і сапраўды быў вельмі суровы, выклікаючы вялікі страх да сябе, але ён часам патураў свавольнікам і добрым вясёлым людзям з ваенных, а такіх свавольнікаў тады было многа, і ім не раз здаралася знаходзіць у яго асобе магутнага і стараннага абаронцу. Наогул ён шмат што мог і шмат што ўмеў зрабіць, абы толькі захацеў. Такім яго ведалі і Свіннін і капітан Мілер. Мілер угаварыў свайго батальённага камандзіра адважыцца на тое, каб неадкладна ехаць да Какошкіна і даверыцца яго вялікадушнасці і яго «шматбаковаму такту», які, напэўна, прадыктуе генералу, як выкруціцца з гэтага прыкрага выпадку, каб не ўгнявіць гасудара, чаго Какошкін заўсёды пазбягаў з вялікай стараннасцю.

Свіннін апрануў шынель, узняў вочы ўгору і, сказаўшы некалькі разоў: «Божа, божа!», паехаў да Какошкіна.

Гэта было ўжо ў пачатку пятай гадзіны раніцы.

## *РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ*

Обер-паліцэймейстара Какошкіна пабудзілі і далажылі яму пра Свінніна, які прыехаў па важнай і тэрміновай справе.

Генерал зараз-жа ўстаў і вышаў да Свінніна ў накідцы, тручы лоб і пазяхаючы. Усё тое, пра што расказваў Свіннін, Какошкін слухаў з вялікай увагай, але спакойна. За ўвес час гэтых тлумачэнняў і просьб аб прабачэнні ён сказаў толькі адно:

— Салдат пакінуў будку і выратаваў чалавека?

— Точна так, адказаў Свіннін.

—А будка?

—Заставалася ў гэты час пустой.

—Гм... я гэта ведаў, што яна заставалася пустой. Вельмі рад, што яе не ўкралі.

Свіннін з гэтага яшчэ больш упэўніўся, што яму ўжо ўсё вядома і што ён, напэўна, вырашыў, як пра гэта далажыць раніцой гасудару, і рашэння гэтага адмяняць не будзе. У адваротным выпадку такая падзея, як пакіданне вартавым свайго паста ў варце палаца, несумненна павінна была-б значна больш устрывожыць энергічнага обер-паліцэймейстара.

Але Какошкін не ведаў нічога. Прыстаў, да якога прыбыў інвалідны афіцэр з выратаваным топленікам, не бачыў у гэтай справе нічога асаблівага. На яго думку гэта зусім нават не было такой справай, каб уначы непакоіць стомленага обер-паліцэймейстара, ды і да таго-ж сама падзея здавалася прыставу даволі падазронай, таму што інвалідны афіцэр быў зусім сухі, чаго ні ў якім выпадку не магло быць, калі ён ратаваў тонучага з небяспекай для ўласнага жыцця. Прыстаў бачыў у гэтым афіцэры толькі ганарліўца і ілгуна, які жадаў атрымаць медаль «За выратаванне гінуўшых», і таму, пакуль яго дзяжурны пісаў пратакол, прыстаў распытваў у афіцэра пра падрабязнасці, спрабуючы такім шляхам даведацца аб праўдзе.

Прыставу таксама было непрыемна, што такое здарэнне адбылося ў яго часці і што чалавека, які тануў, выратаваў не паліцэйскі, а афіцэр палаца.

Спакой-жа Какошкіна тлумачыўся проста, па-першае, вялікай стомленасцю пасля мітусні за дзень і начнога ўдзелу пры тушэнні двух пажараў, а па-другое, тым, што справа, зробленая вартавым Постнікавым, яго, пана обер-паліцэймейстара, непасрэдна не датычыла.

Між іншым, Какошкін зараз-жа зрабіў адпаведнае распараджэнне.

Ён паслаў за прыставам Адміралцейскай часці і загадаў яму неадкладна прыйсці разам з інвалідным афіцэрам і з выратаваным чалавекам, а Свінніна прасіў пачакаць у маленькім прыёмным пакоі перад кабінетам. Затым Какошкін пайшоў у кабінет і, не зачыняючы за сабой дзвярэй, сеў за стол і пачаў было падпісваць паперы; але зараз-жа схіліў галаву на рукі і заснуў за сталом у крэсле.

## *РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ*

У той час яшчэ не было ні гарадскіх тэлеграфаў, ні тэлефонаў, а для тэрміновай перадачы загадаў начальства раз'язджалі па ўсіх напрамках «сорак тысяч кур'ераў», аб якіх захаваецца на доўгі час успамінанне ў камедыі Гогаля.

Гэта, зразумела, не было так хутка, як тэлеграф або тэлефон, але затое надавала гораду значнае ажыўленне і сведчыла аб нядрэмнай пільнасці начальства.

Пакуль з Адміралцейскай часці прыбылі зморанны прыстаў і афіцэр-выратоўца, а таксама і выратаваны чалавек, нервовы і энергічны

генерал Какошкін паспеў крыху задрамаць і меў свежы выгляд. Гэта было прыкметна ў выразе яго твара і ў праяўленні яго душэўных здольнасцей.

Какошкін патрабаваў усіх прыбыўшых зайсці ў кабінет і разам з імі запрасіў і Свінніна.

— Пратакол? — запытаў асвежаным голасам у прystава Какошкін.

Той моўчкі падаў яму складзены аркуш паперы і ціха прашаптаў:

— Павінен прасіць дазволіць мне далажыць вашаму прэвасхадзіцельству некалькі слоў па сакрэту...

— Добра.

Какошкін адышоў у амбразуру акна, а за ім і прыстаў.

— У чым справа?

Пачуўся ціхі шэпт прystава і выразныя словы генерала.

— Гм... Так!.. Ну ў чым-жа справа?.. Гэта магло быць... Яны на тым стаяць, каб сухімі выскакваць... Нічога больш?

— Нічога.

Генерал вышаў з амбразуры, прысеў да стала і пачаў чытаць. Ён чытаў пратакол пра сябе, не выяўляючы ні страху, ні сумненняў, і затым непасрэдна звярнуўся з гучным і цвёрдым пытаннем да выратаванага:

— Як ты, брацец, трапіў у палонку супроць палаца?

— Вінават, — адказваў выратаваны.

— Тож бо яно! Быў п'яны?

— Вінават, п'яны не быў, а быў выпіўшы.

— Навошта ў ваду трапіў?

— Хацеў перайсці бліжэй праз лёд, збіўся і трапіў у ваду.

—Значыць, у вачах было цёмна?

— Цёмна, усюды цёмна было, ваша прэвасхадзіцельства!

— І ты не мог разглядзець, хто цябе выцягнуў?

— Вінават, нічога не разглядзеў. Вось яны, здаецца. — Ён паказаў на афіцэра і дадаў: — Я не мог разглядзець, быў спалоханы.

— У тым і бяда, цягаецеся, калі трэба спаць! Углёдзься-ж цяпер і запомні назаўсёды, хто цябе выратаваў. Шляхетны чалавек афяраваў за цябе сваім жыццём!

— Усё жыццё буду памятаць.

— Ваша імя, пан афіцэр?

Афіцэр назваў сябе па імені.

— Чуеш?

— Слухаю, ваша прэвасхадзіцельства.

— Ты праваслаўны?

— Праваслаўны, ваша прэвасхадзіцельства.

— У памінанні за здароўе гэта імя запішы.

— Запішу, ваша прэвасхадзіцельства.

— Маліся богу за яго і ідзі вон: ты больш не патрэбен.

Той пакланіўся ў ногі і хутка вышаў, вельмі здаволены тым, што яго адпусцілі.

Свіннін стаяў і не разумеў, як гэта такі абарот набывала справа.

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

Какошкін звярнуўся да інваліднага афіцэра:

— Вы выратавалі гэтага чалавека, рызыкуючы ўласным жыццём?

— Точна так, ваша прэвасхадзіцельства.

— Сведкаў гэтага здарэння не было, ды ў сувязі з позным часам і не магло быць?

— Так, ваша прэвасхадзіцельства, было цёмна, і на ўзбярэжнай нікога не было, апрача вартавых.

— Пра вартавых няма чаго ўпамінаць: вартавы ахоўвае свой пост і не павінен цікавіцца нічым пабочным. Я веру таму, што напісана ў пратаколе. Гэта-ж з вашых слоў?

Словы гэтыя Какошкін вымавіў з асаблівым націскам, як быццам прыгразіў або прыкрыкнуў.

Але афіцэр не спалохаўся, а, вылупіўшы вочы і выставіўшы грудзі, адказаў:

— З маіх слоў і зусім правільна, ваша прэвасхадзіцельства!

— Ваш учынак дастойны ўзнагароды.

Той пачаў удзячна кланяцца.

— Няма за што дзякаваць, — гаварыў далей Какошкін. — Я далажу пра ваш самаадданы ўчынак гасудару імператару, і грудзі вашы, магчыма, сёння-ж будуць упрыгожаны медалем. А цяпер можаце ісці дадому, выпіце чаго-небудзь цёплага і нікуды не выходзьце, таму што, магчыма, вы будзеце патрэбны.

Інвалідны афіцэр быў вельмі рад, пакланіўся і вышаў.

Какошкін паглядзеў яму ўслед і прамовіў:

— Магчыма, што гасудар пажадае сам яго бачыць.

— Слухаю, — адказаў зразумела прыстаў.

— Вы мне больш не патрэбны.

Прыстаў вышаў і, зачыніўшы за сабою дзверы, зараз-жа, па набожнай прывычцы, перахрысціўся.

Інвалідны афіцэр чакаў прыстава каля дома, і яны пайшлі разам у значна больш прыязных адносінах, чым калі ішлі сюды.

У кабінеце обер-паліцэймейстара застаўся адзін Свіннін, на якога Какошкін спачатку паглядзеў доўгім, уважлівым позіркам і потым запытаў:

—Вы не былі ў вялікага князя?

У той час, калі ўпаміналі пра вялікага князя, то ўсе ведалі, што гэта датычыць вялікага князя Міхаіла Паўлавіча.

— Я адразу прышоў да вас, — адказаў Свіннін.

— Хто вартавы афіцэр?

— Капітан Мілер.

Какошкін зноў акінуў Свінніна позіркам і потым сказаў:

— Вы мне, здаецца, нешта раней інакш гаварылі.

Свіннін нават не зразумеў, чаго гэта датычыць, і прамаўчаў, а Какошкін дадаў:

— Ну, усёроўна: спіце спакойна

Аудыенцыя скончылася.

## *РАЗДЗЕЛ ТРЫНАЦЦАТЫ*

У гадзіну дня інваліднага афіцэра сапраўды зноў паклікалі да Какошкіна, які вельмі ласкава паведаміў яму, што гасудар вельмі здаволены, што сярод афіцэраў інваліднай

каманды яго палаца ёсць такія пільныя і самаадданыя людзі, і ўзнагароджвае яго медалем «За выратаванне гінуўшых». Пры гэтым Какошкін уласнаручна ўручыў герою медаль, і той пайшоў фарсіць ім. Справу, як відаць, можна было лічыць закончанай, але падпалкоўнік Свіннін адчуваў, што яна не зусім давeдзена да канца, і вырашыў паставіць point sur les i[1].

Ён быў настолькі ўстрывожаны, што тры дні прахварэў, а на чацверты ўстаў, з'ездзіў у Петроўскі домік[2], адслужыў удзячны малебень перад абразам спасіцеля і, вярнуўшыся дадому з супакоенай душой, паслаў папрасіць да сябе капітана Мілера.

— Ну, дзякуй богу, Нікалай Іванавіч,— сказаў ён Мілеру, — цяпер бяда, якая вісела над намі, прайшла, і наша няшчасная справа з вартавым зусім уладзілася. Цяпер, здаецца, мы можам уздыхнуць спакойна. Усім гэтым мы, несумненна, абавязаны спачатку літасці божай, а потым генералу Какошкіну. Няхай пра яго кажуць, што ён і нядобры і жорсткі, але я поўны ўдзячнасці да яго вялікадуш-

[1] Паставіць кропку над і, давесці справу да канца.

[2] Маецца на ўвазе домік Петра Вялікага на Неве. У тыя часы быў звычай ва ўсіх цяжкіх выпадках або пры выключных падзеях ездзіць туды і служыць перад стаяўшым там абразам прасіцельны або ўдзячны малебень.

насці і павагі да яго знаходлівасці і такта. Ён па-майстэрску скарыстаў самахвальства гэтага інваліднага ашуканца, якога, праўду кажучы, варта было-б за яго нахабнасць не медалем узнагароджваць, а як належыць адлупцаваць на стайні, але нічога іншага нельга было рабіць: ім трэба было гэта скарыстаць, каб шмат каго выратаваць, і Какошкін павярнуў усю справу так разумна, што ніхто не атрымаў нават самай невялікай непрыемнасці, — наадварот, усе вельмі рады і задаволены. Між намі кажучы, мне паведаміла дасведчая асоба, што і сам Какошкін мною вельмі здаволены. Яму было прыемна, што я нікуды не паехаў, а проста прыбыў да яго і не спрачаўся з гэтым ашуканцам, які атрымаў медаль. Такім чынам, ніхто не пацярпеў, і ўсё зроблена з такім тактам, што і ў далейшым баяцца няма чаго, але маленькі недахоп лічыцца за намі. Мы таксама павінны з тактам паследаваць прыкладу Какошкіна і закончыць справу з свайго боку так, каб засцерагчы сябе ў далейшым на ўсякі выпадак ад непрыемнасцей. Ёсць яшчэ адна асоба, становішча якой не аформлена. Я кажу пра радавога Постнікава. Ён да гэтага часу знаходзіцца ў карцары пад арыштам і, несумненна, пакутуе, бо не ведае, што яго чакае. Трэба спыніць і яго пакуты.

— Так, трэба спыніць!—падказаў узрадаваны Мілер.

—Ну, вядома, і вам гэта лепш за ўсіх выканаць: ідзіце, калі ласка, зараз-жа ў казармы, пастройце вашу роту, выведзіце радавога Постнікава з-пад арышту і пакарайце яго перад строем двума сотнямі розаг.

## *РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ*

Мілер здзівіўся і зрабіў спробу схіліць Свінніна да таго, каб на агульнай радасці зусім злітавацца і дараваць радавому Постнікаву, які і без гэтага ўжо шмат перацярпеў, чакаючы ў карцары вырашэння свайго лёсу; але Свіннін не даў Мілеру далей гаварыць.

— Не, — перапыніў ён, — гэта пакіньце: я вам толькі што гаварыў пра такт, а вы зараз-жа пачынаеце бястактнасць! Пакіньце гэта!

Свіннін змяніў тон на больш сухі і афіцыйны і дадаў з цвёрдасцю:

— А паколькі ў гэтай справе вы самі вінаваты, таму, што ў вас ёсць мяккасць, якая не да твару ваеннаму чалавеку, і гэты недахоп вашага характару адбіваецца на субардынацыі ў вашых падначаленых, то я загадваю вам

асабіста прысутнічаць пры экзекуцыі і настаяць, каб пакаранне было праведзена сур'ёзна, як мага больш сурова. Для гэтага загадайце, каб розгамі лупцавалі маладыя салдаты з новапрыбыўшых з арміі, таму што нашы старыя ўсе заражаны ў гэтых адносінах гвардзейскім лібералізмам: яны таварыша не лупцуюць як належыць, а толькі блох у яго за спіной палохаюць. Я заеду сам і сам пагляджу, як вінаваты будзе апрацаваны.

Невыкананне якіх-бы там ні было службовых загадаў вышэйшага начальства, вядома, не мела месца, і добры па характару Н. І. Мілер павінен быў дакладна выканаць загад, атрыманы ім ад свайго батальённага камандзіра.

Роту пастроілі на двары Ізмайлаўскіх казарм, прынеслі розгі з запасу ў дастатковай колькасці, і выведзены з карцара радавы Постнікаў быў старанна «апрацаваны» новапрыбыўшымі з арміі маладымі таварышамі. Гэтыя не сапсаваныя гвардзейскім лібералізмам людзі дасканала выставілі на ім усе points sur les i, у поўнай меры вызначаныя яму яго батальённым камандзірам. Затым пакаранага Постнікава паднялі і непасрэдна адсюль на тым-жа шынялі, на якім яго лупцавалі, перанеслі ў палкавы лазарэт.

## *РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ*

Батальённы камандзір Свінін, атрымаўшы данясенне аб выкананні экзекуцыі, зараз-жа сам наведаў Постнікава ў лазарэце і самым наглядным чынам пераканаўся, што загад яго выканан дасканала. Жаласлівы і нервовы Постнікаў быў «апрацаваны як належыць». Здаволены Свінін загадаў даць ад сябе пакаранаму Постнікаву фунт цукру і чвэрць фунта чаю, каб ён мог мець асалоду, пакуль будзе на папраўцы. Постнікаў, лежачы на ложку, чуў гэты загад пра чай і адказаў:

— Вельмі здаволены, ваша высокароддзе, дзякую за бацькоўскую міласць.

І Постнікаў сапраўды быў «здаволены», бо, седзячы тры дні ў карцэры, ён лічыў, што яго пакараюць горш. Дзвесце розаг у той час амаль нічога не азначалі ў параўнанні з тымі пакараннямі, якія людзі пераносілі па прыгаворах ваеннага суда; а такое іменна пакаранне і атрымаў-бы Постнікаў, каб, на яго шчасце, не адбылося ўсіх тых смелых і тактычных эвалюцый, пра якія вышэй расказана.

Але лік усіх здаволеных прыведзеным здарэннем гэтым не абмежаваўся.

## *РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ*

Пад сурдзінкай[1] подзвіг радавога Постнікава пашырыўся па розных колах сталіцы, якая ў той час друкаванай безгалосіцы жыла ў атмасферы бясконцых выдумак. У вусных перадачах імя сапраўднага героя—салдата Постнікава—страцілася, але затое сама эпапея раздулася і набыла вельмі цікавы, рамантычны характар.

Гаварылі, нібы да палаца з боку Петрапаўлаўскай крэпасці плыў нейкі незвычайны плавец, у якога адзін з стаяўшых ля палаца вартавых стрэліў і раніў плаўца, а інвалідны афіцэр, які праходзіў недалёка, кінуўся ў ваду і выратаваў яго, за што і атрымалі: адзін—належную ўзнагароду, а другі—заслужанае пакаранне. Гэта недарэчная чутка дайшла і да падвор'я, дзе ў той час жыў асцярожны і няроўнадушны да «свецкіх падзей» уладыка[2], які з прыхільнасцю адносіўся да набожнага маскоўскага сямейства Свінніных.

Пранікліваму ўладыку справа з выстралам

---

[1] Сурдзінка — прыстасаванне для прыглушэння гуку музыкальнага інструмента. У даным выпадку—цішком, шэптам.

[2] Уладыкамі называлі вышэйшых служыцеляў царквы — архірэяў і мітрапалітаў. Тут аўтарам выведзен мітрапаліт маскоўскі Філарэт Драздоў, бяздушны кар'ерыст, заўзяты прыгоннік і манархіст.

здавалася не зусім зразумелай. Хто-ж такі гэты начны плавец? Калі ён быў беглы зняволены, то за што-ж быў пакараны вартавы, які выканаў свой абавязак, стрэліўшы ў яго, калі той плыў праз Неву з крэпасці? Калі-ж гэта быў не зняволены, а іншы невядомы чалавек, якога трэба было выратаваць, то адкуль пра яго ведаў вартавы? І тады зноў не можа быць, каб гэта было так, як пра тое гавораць людзі. Некаторыя асобы разважаюць вельмі лёгкадумна, але тыя, што жывуць у манастырах і падвор'ях, да ўсяго адносяцца больш сур'ёзна і пра свецкія справы ведаюць грунтоўна.

## *РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ*

Аднойчы, калі Свіннін зайшоў да ўладыкі, каб атрымаць у яго благаславенне, шаноўны гаспадар загаварыў з ім «дарэчы аб выстрале». Свіннін расказаў усю праўду, у якой, як мы ведаем, не было нічога падобнага на тое, пра што гаварылі «дарэчы аб выстрале».

Уладыка моўчкі выслухаў шчыры расказ, злёгку варушачы сваімі беленькімі пацеркамі і не спускаючы сваіх вачэй з Свінніна. Калі-ж Свіннін скончыў, уладыка ціха прамовіў:

— Адсюль вынікае, што ў гэтай справе не ўсё і не ўсюды выкладалася згодна з праўдай?

Свіннін запнуўся, але потым адказаў, што дакладваў не ён, а генерал Какошкін.

Уладыка моўчкі перапусціў некалькі разоў пацеркі праз свае васковыя пальцы і потым сказаў:

— Трэба адрозніваць хлусню ад няшчырай праўды.

Зноў пацеркі, зноў маўчанне і нарэшце спакойныя словы:

— Няшчырая праўда—гэта не хлусня.

— Гэта сапраўды так,—загаварыў заахвочаны Свіннін.—Мяне, вядома, больш за ўсё турбуе, што я павінен быў пакараць гэтага салдата, які, хаця нарушыў свой абавязак...

Пацеркі і спакойны голас:

— Абавязак службы ніколі не павінен быць нарушан.

— Так, але гэта ім было зроблена па вялікадушнасці, па спачуванню і пры тым з такой барацьбой і з небяспекай; ён разумеў, што, выратоўваючы жыццё другому чалавеку, ён губіць самога сябе... Гэта высокае, святое пачуццё!

— Святое вядома богу, пакаранне-ж простага чалавека не бывае шкодна і не супярэ-

чыць ні звычаю народаў, ні духу пісання. Розгі значна лягчэй перанесці на грубым целе, чым вялікую пакуту ў душы. У гэтым справядлівасць ад вас нікольні не пацярпела.

— Але ён пазбаўлены і ўзнагароды за выратаванне гінуўшых.

— Выратаванне гінучых—гэта не заслуга, а толькі абавязак. Хто мог выратаваць і не выратаваў—падлягае па закону пакаранню, а хто выратаваў, той выканаў свой абавязак.

Па́уза, пацеркі і спакойны голас:

— Воіну перанесці за свой подзвіг зневажэнне і раны, магчыма, значна карысней, чым выхваляцца знакам. Але што ва ўсім гэтым самае важнае—гэта тое, каб захоўваць аб усёй гэтай справе асцярожнасць і ніколі нідзе не ўпамінаць аб тым, каму пра гэта было сказана.

Як відаць, і ўладыка быў здаволены.

## *РАЗДЗЕЛ ВОСЕМНАЦЦАТЫ*

Калі-б я меў смеласць шчаслівых выбраннікаў неба, якія, па вялікай іх веры, могуць пранікаць у тайны бога, то я, магчыма, дазволіў-бы сабе зрабіць дапушчэнне, што, напэўна, і сам бог быў здаволены паводзінамі

створанай ім спакойнай душы Постнікава. Але вера мая малая; яна не дае розуму майму сілы бачыць высокага: я прытрымліваюся зямнога. Я думаю аб тых людзях, якія любяць дабро проста для самога дабра і не чакаюць за яго ніякіх узнагарод. Гэтыя простыя і надзейныя людзі таксама, мне здаецца, павінны быць здаволены святым парывам любві і не менш святой цярплівасцю пакорлівага героя майго праўдзівага апавядання.

1887 г.



**Рэдактар** *В. Няміра*
Тэхрэдактар *Я. Карпіновіч*
Карэктар *П. Галубцова*

АТ 01203 Падпісана да друку 28/XII 46 г. Тыраж 20.000 экз.
Папера 70×108/32. Вуч. аўт. арк. 1,2 Друк. арк. 1¼.

Мінск, друкарня імя Сталіна, Пушкіна, 55. Зак.№ 324

Дзяржаўнае Выдавецтва БССР

„Першая бібліятэчка школьніка"

Для дзяцей малодшага і сярэдняга ўзросту



М. Горкі — Двед Архіп і Лёнька
А. Пушкін — Казкі
В. Караленка — Куплены хлопчык
І. Тургенеў — Муму
Н. Лескоў — Чалавек на варце
В. Гаршын — Сігнал
Я. Купала — Сыны і іншыя вершы
Я. Колас — Міхасёвы прыгоды
М. Лынькоў — Міколка паравоз
М. Лынькоў — Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышоў
Я. Маўр — Палескія рабінзоны
А. Якімовіч — Каваль Вярнідуб
А. Якімовіч — Казка пра смелага вожыка

НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ
Н. Лесков
ЧЕЛОВЕК НА ЧАСАХ
Государственное Издательство БССР
Минск 1947